На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 189 (311)
Пятніца, 24 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 7.46 | 17.41 |
| Магілёў | 7.42 | 17.44 |
| Гомель | 7.36 | 17.44 |
| Мінск | 7.53 | 17.54 |
| Гродна | 8.08 | 18.10 |
| Брэст | 8.05 | 18.14 |

*Поўня 31 кастрычніка.*



Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"



Крупнейший поставщик бумаги и картона от шведских и финских производителей на Беларуси.
Тел. (017) 223-28-33.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает компания МОБИЛКОМ пейджинг-система (017) 222-46-51 (017) 222-46-52

K&K ЛАМПЫ КАБЕЛЬ СВЕТИЛЬНИКИ ПРОЖЕКТОРЫ ЭЛЕКТРООБОРУДОВАНИЕ 8-(017)-213-70-13
Кальченко & К°

Откровенно

## Как предприниматель Роман Ананьев "лег в постель" с сильной властью и что из этого вышло

**Людмила МАСЛЮКОВА, политический обозреватель "Народной воли"**

Примерно год назад в период раскола Верховного Совета 13-го созыва предприниматель и депутат Роман Ананьев позволил себе игривое высказывание, которое широко цитировала пресса. Он заявил о том, что бизнесменам нечего делать в постели с "политическими импотентами", а потому они охотно лягут с "сильной властью".

Под первыми молодой директор закрытого коммерческого акционерного общества "Белнефтегаз" подразумевал своих коллег по парламенту, которые остались верны законности и Конституции 1994 года. В роли привлекательного партнера для депутата от Бешенковичского избирательного округа №39 выступала президентская власть.

Вскоре и состоялось событие, которое впоследствии оппозиционный депутат Елена Скриган метко окрестила "дунькиной свадьбой". Без стеснения сексуально мыслящий политик Ананьев "лег под президента", войдя в Палату представителей послереферендумного Национального собрания. В канун годовщины несколько противоестественного "брака" коммерсант публично выразил свое разочарование сделанным выбором.

Р.В.Ананьев обратился с письмом к председателю Палаты представителей Анатолию Малофееву, в строках которого угадывается глубокая неудовлетворенность. Ее разделили с Романом Владиславовичем еще десять депутатов пресловутой палаты. В документе значится, что государственная поддержка предпринимательства "должна получить новый дополнительный импульс со стороны законодательной и исполнительной власти". Выходит, не стал отечественный бизнес "любимой женой" Малофеева и не сильно приласкал его Лукашенко.

Отрешившись от прежних фривольных замашек, Роман Ананьев тем не менее и в официальном обращении к спикеру нижней палаты нашел возможность употребить слово, однокоренное с известным понятием "потенция". Депутат выразил сожаление "о недостаточном использовании государственными органами заложенных потенциальных возможностей" и констатировал "реальный спад активности".

Одиннадцать месяцев спустя после "свадьбы" податливой "Дуньке" очень хочется внимания если не со стороны "сильной власти", то хотя бы со стороны "вчерашних". Поскольку за этот период сожительства ничего так и не родилось, Ананьев просит Малофеева включить в повестку дня нынешней сессии Палаты представителей парламентские слушания по вопросу "О состоянии развития предпринимательства в Беларуси". Возможно, в ходе слушаний они разберутся, кто кого и почему так и не сделал счастливым.

Крымінал

## Ні машын замежнай вытворчасці, ні грошай

Ахвярамі ўласнай даверлівасці стала група жыхароў Ашгабата, якія прыехалі на гродзенскі аўтарынак за аўтамабілямі. Яны страцілі не толькі буйную суму "зялёненькіх", аддадзеных за машыны замежнай вытворчасці, але і самі машыны. А ўсё таму, што пры афармленні куплі-продажу мелі справу не з дзяржаўнай установай — натарыяльнай канторай, а з дзялкамі ценявога бізнесу.

Разам з 8 аўтамабілямі "БМВ" і адным "Форд-Скорпіо", кожны з якіх каштаваў грамадзянам Туркменістана прыкладна 6 тысяч долараў, прыезджыя набылі дакументы аб тым, што машыны замежнай вытворчасці імі куплены нібыта ў Польшчы. Аднак супрацоўнікі праваахоўных органаў устанавілі, што і тэхпашпарты, і мытныя дэкларацыі, хоць яны і забяспечаны пячаткамі і штампамі Гродзенскай рэгіянальнай мытні, з'яўляюцца падробнымі. Значыць, уладальнікі аўтамашын за імі не выязджалі за мяжу, а таму і не плацілі прадугледжаных заканадаўствам мытных пошлін. На гэтай падставе аўтамабілі прызнаны прадметам незаконнай здзелкі, канфіскаваны ў даход дзяржавы і адпраўлены на спецыяльную аўтастаянку.

Устанавіць асоб, якія прадалі дзевяці даверлівым пакупнікам з Сярэдняй Азіі аўтамабілі, а таксама тых, хто вырабіў для іх "ліпавыя" дакументы, міліцыі пакуль што не ўдалося.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БелТА.**

Поддержка

## *Шеремет:* "В тюрьме главное не раскисать"

Выписавшийся в среду из боровлянской больницы Павел Шеремет сразу же навестил маму Вадима Лобковича — шестнадцатилетнего школьника, брошенного за решетку за "заборное" творчество в Столбцах.

Ядвига Иосифовна Лобкович была тронута участливым отношением журналиста, его моральной и даже... материальной поддержкой их семьи. "Часть денег, которые передал Павлу фонд поддержки независимой прессы, он отдал нам", — рассказывает Ядвига Иосифовна.

Павел Шеремет успокоил семью Вадима, поведав, что главное за решеткой — вести себя достойно, не раскисать". А этих качеств Вадиму не занимать", — поддержал Шеремет Лобковичей.

**Мария ВИКТОРОВА.**

Дзякуй!

## "Ведаеце, які б радок я яшчэ напісаў..."

У рэдакцыю патэлефанаваў Валерый Паўлавіч Дзеяў, які прадставіўся працуючым на гандлёвым прадпрыемстве "Калібр". Яго закранулі маналогі "Восем гадзін з Васілём Канстанцінавічам Старавойтавым".

Як прадстаўніка гандлю Валерыя Паўлавіча кранулі радкі пра "вельмі смешныя страты": на тысячу тон рэалізаваных памідораў у "Рассвеце" іх спісалі толькі... 800 кілаграмаў.

— Усім бы гандлёвым кропкам і прадпрыемствам такую гаспадарчасць ды руплівасць, клопат за агульныя вынікі працы, — зрабіў выснову Дзеяў і дадаў: — А Старавойтава яшчэ абвінавачваюць у безгаспадарчасці за якісьці клін у 11 гектараў збожжавых...

Валерый Паўлавіч цяжка ўздыхнуў і параіў:

— Ведаеце, які б радок я напісаў яшчэ ў матэрыяле. Гэта заклік: "Рукі прэч ад Старавойтава!" А "Народнай волі" шчыры дзякуй за праўдзівыя маналогі пра Васіля Канстанцінавіча Старавойтава — сапраўдную зорку рынычных рэформ.

Дзякуй і вам, Валерый Паўлавіч, за ўвагу да газеты і герояў яе публікацый.

**Вітольд БАРАВІЦКІ.**

Дэмакратыя па-беларуску

## Лідэр Беларускага жаночага руху аштрафавана на 30 мільёнаў

Ленінскі раённы суд Мінска аштрафаваў на 30 мільёнаў лідэра Беларускага жаночага руху Таццяну Ваніну.

Толькі ў судзе Ваніна даведалася, што пасля правядзення шэсця супраць галечы, голаду і холаду, які адбыўся ў Мінску 12 кастрычніка, на яе быў складзены пратакол. У ім сцвярджалася, што Таццяна Ваніна як арганізатар шэсця дапусціла выкарыстанне яго ўдзельнікамі незарэгістраванай сімволікі і атрыбутыкі, а таксама не рэагавала на заўвагі і патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі.

Суд прызнаў Ваніну вінаватай у парушэнні некалькіх артыкулаў славутага прэзідэнцкага Дэкрэта №5 аб вулічных дэманстрацыях і шэсцях і прысудзіў ёй штраф у памеры 150 мінімальных зарплат.

Аднак сама Таццяна Ваніна лічыць, што ў афармленні судзебнага пратакола былі дапушчаны памылкі і збіраецца накіраваць суддзі Валевіч скаргу, а ў пракуратуру Ленінскага раёна — заяву з просьбай апратэставаць рашэнне суда.

**Марыя НАРЭЙКА.**

Незалежная экспертыза

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## На "ясна" ці "пахмурна" паказвае эканамічны барометр сельскай гаспадаркі?

У сваёй нядаўняй праграмнай прамове ў Нацыянальным сходзе прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка з пафасам і, відаць, дзеля вобразнасці сказаў: "Будаўніцтва і сельская гаспадарка — барометр развіцця эканомікі, і ён паказвае ў бок "ясна". Але якое гэта "ясна", у сапраўднасці сведчыць тое, як ідзе завяршэнне сельскагаспадарчага года ў калгасах і саўгасах краіны.

Паводле статыстычных даных Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, сяўба азімых, ворыва зябліва, уборка цукровых буракоў і іншыя сельскагаспадарчыя работы ідуць у калгасах і саўгасах горш, чым летась. Так, па стану на 14 кастрычніка было сабрана толькі 80% пасеваў бульбы. І гэта пры тым, што ўся плошча ў грамадскім сектары пад гэтай культурай чысты мізэр — усяго 88 тысяч гектараў. Прыватны сектар даўно выкапаў бульбу — і на плошчы, амаль у 10 разоў большай. Ураджайнасць бульбы ў калгасах і саўгасах — 102 цэнтнеры з гектара. Па падліках спецыялістаў, недабор клубняў складае 2 мільёны тон. Неўраджай на бульбяным полі — моцны ўдар па эканоміцы калгасна-саўгаснага сектара, бо, па ацэнцы аналітыкаў, бульба забяспечвала дзесь 35 працэнтаў аб'ёму валавога прадукту земляробства. Больш за палавіну на полі і цукровых буракоў, хоць уборка іх вядзецца ўжо болей за два тыдні, а пасяўная плошча складае толькі 48 тысяч гектараў, удвая меней, чым бульбы.

Калі звярнуцца да таго, які падмурак закладваецца пад будучы ўраджай 1998 года, то і тут барометр паказвае зусім не на "ясна", а хутчэй на "пахмурна", бо азімыя пасеяны толькі на 1090 тысячах гектараў і ў горшыя тэрміны, чым летась. Пры гэтым запланаваны клін азімых зменшаны на 4 працэнты. На сярэдзіну кастрычніка ўзарана толькі 809 тысяч гектараў зябліва, або 39 працэнтаў ад патрэбнага. У чым прычына? Іх у Міністэрстве сельскай гаспадаркі называюць некалькі.

Па-першае, зношанасць трактароў, асабліва гусенічных. З-за няспраўнасці 40 працэнтаў іх стаіць на прыколе. Па-другое, дэфіцыт паліва. Яно з-за недахопу грашовых сродкаў паступае ў калгасы і саўгасы невялікімі дозамі, і тое, як кажуць, з кола: прывезлі і адразу спалілі, а заўтра — як бог дасць. Так, прычыны правалу ворыва зябліва важкія. Але барометр ад гэтага на "ясна" ўсё роўна не паказвае. Калі план ворыва зябліва не будзе выкананы (а па ўсім бачна, што станецца менавіта так), то недабор ураджаю непазбежны.

У аддзеле вытворчасці кармоў настрой больш аптымістычны, чым у земляробчым. Тут лічаць, што сёлета ў разліку на ўмоўную галаву жывёлы нарыхтавана 16,9 цэнтнера кармавых адзінак, што дзесь на два цэнтнеры кармавых адзінак болей, чым на гэты час летась. Можна было б павіншаваць з поспехам. Але да патрэбнага на зімоўку кармавога запасу 23,5 цэнтнера кармавых адзінак яшчэ далёка. Гэта па-першае. А па-другое, болей кармоў у разліку на адну галаву жывёлы сталася ў значнай ступені таму, што паменела (і значна) пагалоўя жывёлы. Глядзім у статыстычны зборнік і чытаем, што пагалоўе кароў зменшылася з пачатку года на 4 працэнты, свіней — на 3 працэнты, буйной рагатай жывёлы — на 2 працэнты. Але апроч гэтага ёсць яшчэ адзін паказчык, які зводзіць на нішто аптымізм з кормазабеспячэннем. Справа ў тым, што, па даных таго ж міністэрства, не хапае болей за адзін мільён тон фуражнага зерня. І ўзяць яго няма адкуль. Так што агульны збор збожжа (на 600 тысяч тон болей, чым летась) не вырашае праблему. Тым болей што сёлетняя ўраджайнасць збожжавых — 27,2 цэнтнера з гектара — не зусім дакладны паказчык, бо каля 200 тысяч гектараў збожжавых было спісана на зялёны корм. А з якой плошчы разлічвалася ўраджайнасць непасрэдна ў калгасах і саўгасах — невядома. Не выключана, што на значнай плошчы гэтай нібы скормленай жывёле збажыны ўборка ўсё ж праводзілася, а зерне пайшло на прырост ураджайнасці.

Сельскагаспадарчы год заканчваецца ва ўмовах, калі пагоршыўся фінансавы стан калгасаў і саўгасаў. Як было адзначана на нядаўнім "круглым стале" навукоўцаў і арганізатараў сельскагаспадарчай вытворчасці пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, сёлета калгасы і саўгасы закончаць год пры нулявой рэнтабельнасці ці каля гэтага, а 500 гаспадарак знаходзяцца ў глыбокім банкруцтве. Пра іх санацыю, як, між іншым, і прыватызацыю, пакуль толькі ідуць размовы. Як выглядаюць калгасы і саўгасы ў фінансавым плане на фінішы года, добра відаць на прыкладзе запазычанасці па заработнай плаце. На 25 верасня запазычанасць па зарплаце ў калгасах склала 336 мільярдаў рублёў, ці ажно 43 працэнты месячнага фонду заработнай платы, у саўгасах — адпаведна 11О мільярдаў і 33 працэнты.

Дык якое ж гэта "ясна", калі канкрэтныя даныя сведчаць аб адваротным, а менавіта аб тым, што "пахмурна" сёння ў сельскай гаспадарцы.

## Ой, доўга яшчэ сядзець за кратамі Тамары Віннікавай



Генеральны пракурор А.Бажэлка праінфармаваў на днях прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнку аб ходзе расследавання па справе былога кіраўніка Нацыянальнага банка Тамары Віннікавай. Па ягоных словах, на працягу бліжэйшых паўтара месяцаў павінна быць завершана рэвізія банкаўскіх структур, пасля чаго расследаванне гэтай справы таксама будзе завершана.

**БелаПАН.**

SOS!

## Абвясціла галадоўку работніца мінскага завода "Электроніка"

На мінскім заводзе "Электроніка", што ўваходзіць у склад НВА "Інтэграл", надзвычайнае здарэнне: 21 кастрычніка пачала галадоўку работніца прадпрыемства, член заводскай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Ала Грыбко. Такім чынам жанчына выказвае свой пратэст супраць самавольства адміністрацыі завода. Як паведамілі БелаПАН прадстаўнікі Свабоднага прафсаюза, заробная плата А.Грыбко складае крыху больш за 800 тысяч рублёў (паказчык пражытачнага мінімуму на пачатак кастрычніка — 1 мільён 221 тысяча рублёў). Мае месца дыскрымінацыя рабочых: за практычна аднолькавую працу мужчынам плацяць каля 3 мільёнаў, жанчынам — менш за мільён рублёў. Умовы працы не адпавядаюць санітарным нормам: тэмпература ў цэхах, напрыклад, не перавышае 12 градусаў. Менавіта гэта стала прычынай захворвання Алы Грыбко, якая пры такой заробнай плаце не ў стане купіць неабходныя лекі. Сваю акцыю пратэсту Ала Грыбко праводзіць ля прахадной завода "Электроніка"; з боку адміністрацыі прадпрыемства ніякіх дзеянняў у адказ пакуль не паследавала.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Міжнародны салон "Сучасны офіс і банк" адкрыецца ў Мінску 27 кастрычніка

Да 30 кастрычніка ў Мінску будзе працаваць 6-ты Міжнародны салон "Сучасны офіс і банк". Па дадзеных яго арганізатара — Выставачнага таварыства "Экспафорум", заяўкі на ўдзел у салоне падалі 74 прадпрыемствы з Беларусі, Расіі, Літвы і Іспаніі. Асноўнымі накірункамі экспазіцыі традыцыйна стануць арганізацыйная і вылічальная тэхніка, праграмнае забеспячэнне, офісная мэбля і банкаўскае абсталяванне. Па словах дырэктара салона Алены Пашко, навінкай цяперашняй выставы стане прэзентацыя банкаўскіх паслуг, якія аказвае насельніцтву прадстаўніцтва літоўскага банка "SNORAS", што адкрылася ў Беларусі. Апрача таго, у рамках салона пройдзе серыя семінараў, прысвечаных банкаўскім інфармацыйным тэхналогіям, інтэграваным сістэмам кіравання вытворчасцю і сучасным сродкам перадачы інфармацыі.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Нацыянальным банкам Беларусі зарэгістраваны новы памер статутнага фонду Белзнешэканамбанка

Нацыянальны банк Беларусі зарэгістраваў новы памер статутнага фонду Белзнешэканамбанка па выніках правядзення банкам дадатковай эмісіі акцый. Паводле звестак БелаПАН, у выніку правядзення дадатковай падпіскі на акцыі статутны капітал банка павялічыўся з 93 да 401,6 мільярда рублёў. Намінальны кошт акцыі складаў 500 рублёў. На сёння асноўнымі акцыянерамі Белзнешэканамбанка з'яўляюцца Міністэрства па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, Нацыянальны банк, Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, Беларускі металургічны завод, АТ "Атлант", СП "Лада ОМС", ЗАТ "Белаграінгандаль". У самім Белзнешэканамбанку не хаваюць задавальнення вынікамі правядзення падпіскі на акцыі, паколькі новы памер статутнага фонду ў 401,6 мільярда рублёў нашмат вышэйшы за першапачаткова плануемы. На думку спецыялістаў, пасля нарошчвання аб'ёмаў статутнага капіталу банк зможа больш эфектыўна працаваць на фінансавым рынку рэспублікі.

**Ягор ЗВОННІКАЎ.**

## У Беларусі адбываецца планавае зніжэнне аб'ёмаў здабычы нафты

Здабыча беларускай нафты ў верасні бягучага года склала трохі больш за 150 тысяч тон (100 працэнтаў да плану і 98,8 працэнта ў адносінах да верасня 1996 года). За дзевяць месяцаў здабыта 1,65 тысячы тон, ці 97,8 працэнта да аналагічнага перыяду 1996 года. Па ацэнках спецыялістаў ВА "Беларуснафта", у рэспубліцы адбываецца прагназуемае зніжэнне аб'ёмаў здабычы нафты, таму што "гэта заканамерны працэс, які наступае пасля дасягнення максімальных узроўняў здабычы". У Беларусі максімальны ўзровень быў дасягнуты ў сярэдзіне 70-х гадоў — 8 мільёнаў тон нафты. Каб утрымаць штогадовую здабычу нафты ў аб'ёме 2 мільёнаў тон, неабходна, на думку спецыялістаў, пераўзброіць геафізічную службу аб'яднання сучасным абсталяваннем, павялічыць аб'ёмы геолагаразведачных работ у два разы.

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

А что там на Витебщине?

### Смена лозунгов

Ни одного из своих сторонников не выставила в качестве кандидатов в депутаты городского и областного Советов витебская организация пропрезидентской Белорусской коммунистической партии. В отличие от местной структуры — Партии коммунистов Белорусской, предложившей только в горсовет 20 своих единомышленников. Если это позиция БКП, то как ее можно соотнести с более чем 70-летним лозунгом коммунистов — "Вся власть Советам!"? Сменой его на лозунг "Долой Советы! Вся власть президенту!"? Молчит БКП...

### Сам не "ам"...

Парадоксальная ситуация сложилась в предвыборной борьбе кандидатов за 29 мандатов депутатов Витебского городского Совета. Для агитационной кампании государство не выделило кандидатам ни одной копейки, а вместе с тем закон запрещает использовать для этих целей собственные или привлеченные средства. Удобный способ кандидатам обвинить своего соперника в правонарушении: так или иначе, листовки и плакаты все равно будут печататься.

### Одолели... путаны

На очередной сессии областного Совета главный врач областного кожвендиспансера В.Спиридонов предложил создать на Витебщине... полицию нравов. Как меру, способную улучшить напряженную демографическую ситуацию, обуздать распространение среди молодежи таких болезней, как ВИЧ-инфекция, сифилис, наркомания.

### В гостях — дочь маршала

В Витебске прошли Жуковские чтения, посвященные памяти выдающегося военачальника Георгия Жукова. Это мероприятие почтила своим вниманием дочь прославленного полководца, президент фонда "Маршал Жуков" Маргарита Георгиевна.

### И о нас в Европе ведают

Народная актриса Беларуси Светлана Окружная, ведущая артистка Витебского белорусского государственного драматического академического театра имени Я.Коласа, войдет в число двух тысяч самых интересных людей столетия. Весть об этом пришла из Кембриджа, где создается книга "2000 человек XX века".

**Евгений ТОМОВ.**

По существу

## Вместо закрытого суда не лучше ли закрытое дело

### Кроме Шеремета нужно защищать и Завадского

В последние недели я и мои коллеги столько писали и говорили о сидевшем в Гродненской тюрьме руководителе белорусского бюро ОРТ Павле Шеремете, что почти забыли об арестованных вместе с ним двух его подчиненных — водителе Ярославе Овчинникове и операторе Дмитрии Завадском. К счастью, со Славы все обвинения сняты. Однако Дима готовится к суду, который собираются сделать закрытым. Это значит, что подробности судебного процесса мы узнаем одновременно с приговором.

Поэтому в данной статье я попытаюсь выступить общественным защитником Дмитрия Завадского. Как известно, Павел Шеремет недостатка желающих стать его защитниками не испытывает. К тому же у Шеремета и Завадского разные формулировки обвинения, разные адвокаты и разные обстоятельства пребывания возле белорусско-литовской границы.

Самое существенное отличие дела Шеремета от дела Завадского состоит в том, что Павел ехал к границе с Литвой, будучи лишенным аккредитации при МИДе Беларуси, а Дмитрий эту аккредитацию имел, причем в качестве иностранного корреспондента, а не технического сотрудника, как теперь квалифицирует любого телеоператора МИД. Завадский был лишен аккредитации только 19 августа 1997 года, когда уже сидел в следственном изоляторе. Но до 19 августа Дима обладал всеми правами иностранного журналиста.

А 23 июля 1997 года, в самый канун поездки группы ОРТ на границу, вступило в силу постановление Совета министров Беларуси № 869 от 12 июля, которым было утверждено новое положение об аккредитации иностранных корреспондентов. Согласно пункту 23 этого положения, Дмитрий Завадский с 23 июля по 19 августа имел право "на свободное передвижение по территории Республики Беларусь, за исключением посещения объектов, доступ к которым ограничен в соответствии с законодательством Республики Беларусь".

Я уже не говорю, что статья 30 обеих редакций Конституции Беларуси гарантирует белорусскому гражданину Завадскому (как и Шеремету) "право свободно передвигаться и выбирать место жительства в пределах Республики Беларусь, покидать ее и беспрепятственно возвращаться обратно".

Я не делаю акцент на действующем Законе "О печати и других СМИ", в соответствии с которым до 19 августа Дмитрий имел право "присутствовать в районах стихийных бедствий, аварий и катастроф, военных действий, местностях, где объявлено чрезвычайное положение, на митингах и демонстрациях, на местах других общественно важных событий и передавать оттуда информацию", хотя сегодня можно с уверенностью утверждать: переход Павла Шеремета сквозь шлагбаум возле границы был общественно важным событием (и это доказали своими действиями белорусские власти, в том числе государственное ТВ, которое неоднократно в выпусках АТН показывало эти кадры), а потому Завадский имел полное законное право снять это на телекамеру и передать оттуда, с границы, видеоинформацию.

Вернусь к п. 23 положения об аккредитации при МИДе Беларуси. Является ли приграничная зона и даже пограничный переход объектами, доступ к которым ограничен в соответствии с законодательством Республики Беларусь? С полной ответственностью заявляю: нет, нет и еще раз нет. Я даже хотел бы выступить на закрытом суде как свидетель, чтобы доказать: посещение и даже переход Государственной границы Беларуси не запрещены для аккредитованных иностранных журналистов!

Пример — события 14 июня 1997 года, когда я, Шеремет, Завадский, несколько других журналистов свободно пересекли дважды (туда и обратно) линию белорусско-польской границы в районе знаменитых Вискулей в Беловежской пуще. Ни Завадский, ни Шеремет, ни я, ни остальные корреспонденты специального разрешения на переход линии Государственной границы от белорусских пограничников не запрашивали, не получали! Мы вместе с десятками депутатов Парламентского собрания Союза Беларуси и России затоптали контрольно-следовую полосу, пройдя через открытые ворота с колючей проволокой. В качестве свидетелей можно вызвать также председателя Госдумы России Геннадия Селезнева, который сам стоял прямо на бело-красной линии границы, и спикера верхней палаты Национального собрания Беларуси Павла Шипука, который даже углубился в Польшу и беседовал там возле шлагбаума с двумя поляками-велосипедистами на темы Союза.

И это на обустроенной во времена "железного занавеса" границе бывшего Союза с Польшей! Где тогда была принципиальность белорусских пограничников? Куда смотрел местный брестский КГБ? Если законодательство одинаково для всех, почему его не применили к "нарушителям границы" в июне, в том числе к Шеремету и Завадскому? А если оно отнюдь не одинаково, то к чему разные заявления о правовом государстве и объективном следствии по факту точно таких же действий в июле? Причем на новой, недемаркированной границе Беларуси с Литвой?

Как известно, белорусское бюро ОРТ уведомило пограничников Беларуси о своем намерении посетить район границы с Литвой заранее. Об этом Завадский знал. Разве мог он не выполнить редакционное задание и не отправиться на съемки вместе с Шереметом после беспроблемных съемок на границе месяцем раньше? Согласно КЗоТу России, которым руководствуется ОРТ, Завадский мог быть уволен за нарушение трудовой дисциплины.

Шеремет и после лишения аккредитации является для Завадского начальником. Павел до сих пор может руководить деятельностью белорусского бюро ОРТ — он лишь не может заниматься журналистской деятельностью в качестве иностранного корреспондента.

Итак, какое обвинение предъявлено Завадскому? Незаконное пересечение государственной границы, совершенное по предварительному сговору группой лиц повторно.

Как видим, даже если пересечение линии границы и было (хотя уже известно, что эта линия находится в нескольких сотнях метров от места съемок, так как злополучный шлагбаум после делимитации границы оказался внутри белорусской территории), то оно было абсолютно законным. Но как можно доказать факт пересечения границы на основании телесюжета, показанного в программе "Время"? Двух литовских пограничников уволили именно за то, что они попытались установить этот факт после увиденного по телевизору. К тому же Литва отрицает, что Шеремет и Завадский нарушили ее границу. Как же можно было покинуть пределы Беларуси, не войдя в пределы Литвы, да еще и дважды? Ведь слово "повторно" в формулировке обвинения означает, что сотрудники ОРТ якобы сначала ушли из Беларуси в Литву, а затем вернулись из Литвы в Беларусь. И что это за предварительный сговор подчиненного с начальником, если они заранее информируют о нем бдительных стражей границы?

Словом, после отшумевшего скандала сейчас лучше всего закрыть не суд, а само уголовное дело, ибо Завадский абсолютно невиновен! Надеюсь, что власти Беларуси прекратят за отсутствием состава преступления не только его дело, но и дело Шеремета. Прецедент для этого есть — дело Адамчука. Против второй группы ОРТ, задержанной на том же месте тоже было возбуждено уголовное дело с таким же обвинением, но его быстро прекратили безо всякого суда, хотя члены этой группы никогда не были аккредитованы в Беларуси.

**Юрий СВИРКО, собственный корреспондент Всероссийской государственной телерадиокомпании в Минске.**

**Размещая рекламу на страницах "Народной воли", Вы не только укрепляете свой бизнес, но и строите новую Беларусь!**

Рекламу не обязательно доставлять в редакцию, ее можно вместе с гарантийным письмом передать по факсу: (017) 229-29-04. Телефон для справок: (017) 229-29-06.

### Погода

Днем 24 октября местами по республике, а ночью на большей части территории осадки в виде дождя и мокрого снега. Температура ночью 0...-5. 25 октября — +1...+6.

### Курсы обмена наличных валют в коммерческих банках и официальный курс, установленный Национальным банком на 22 октября 1997 г. (по состоянию на 9.50)

| Наименование банка | USD Покупка | USD Продажа | DM Покупка | DM Продажа | RUR Покупка | RUR Продажа | Телефон для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Минск (0-172)** | | | | | | | |
| Абсолютбанк | 28300 | 28360 | 15900 | 15970 | 4,79 | 4,81 | 636-080 |
| Белагропромбанк | 28360 | | 15960 | | 4,80 | | 285-716 |
| Белбизнесбанк (гл. опер. упр.) | 28260 | 28360 | 15900 | 15970 | 4,79 | 4,81 | 769-531 |
| Белбизнесбанк (гор. дир.) | 28360 | | 15900 | | 4,81 | | 271-960 |
| Белвнешэкономбанк | 28350 | | 15943 | | 4,80 | | |
| АКБ "Золотой талер" | 28360 | | 15970 | | 4,81 | | 267-597 |
| Минский транзитный банк | 28300 | 28360 | 15950 | 15970 | 4,80 | 4,81 | 132-916 |
| Ф-л "Милавица" АКБ "Минский транзитный банк" | 28350 | 28360 | 15960 | 15970 | 4,80 | 4,81 | 372-825 |
| Ф-л Мосбизнесбанка | 28260 | 28360 | 15700 | 15970 | 4,75 | 4,81 | 286-278 |
| Народный банк | 28000 | 28360 | 15800 | 15970 | 4,75 | 4,81 | 238-610 |
| "Новоком" | 28350 | 28360 | 15800 | 15970 | 4,78 | 4,81 | 603-402 |
| Приорбанк | 28200 | 28360 | 15800 | 15970 | 4,77 | 4,81 | 455-721 |
| РРБ | 28260 | 28360 | 15870 | 15970 | 4,77 | 4,81 | 266-941 |
| "ФФФ" | 28320 | 28360 | 15950 | 15970 | 4,80 | 4,81 | 621-601 |

Информация предоставлена ПКФ "Агентство Гревцова". Тел./факс (017) 262-16-17.

